# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 44 (1288) ГОД XXV БЕЛАСТОК 2 ЛІСТАПАДА 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.

## ХТО ЗНАЕ ТРЫВОГУ СЯЎБЫ, ТОЙ ВЕДАЕ ЖНІВА РАСКОШУ...

Знаюць яго падвойна — раз як Аляксандра Баршчэўскага, другі раз завуць Алесем Барскім. Першы — гэта доктар філалагічных навук, гісторык беларускай літаратуры і фальклярыст, другі — паэт, перакладчык, аўтар „Белавежскіх матываў“, „Жніўня слоў“, „Майго берага“. І часта пытаюць: — Ці Баршчэўскі і Барскі гэта чалавек адзін і той самы, ці двое зусім розных людзей?

— Кантакт са студэнтамі з'яўляецца маім надзённым хлебам, — гаворыць доктар Аляксандр Баршчэўскі.

— Паэзію сваю не трактую як песню, а шырэй — як форму абавязку перад Айчынай. Абарона беларускай мовы, традыцый, культуры, галоўным чынам перад самімі беларусамі — гэта галоўны матыў маёй творчасці, — кажа паэт Алесь Барскі.

Прыйшоў на свет 2 лістапада 1930 года ў Бандарах у простай сялянскай хаце на беразе сінявокай Нарвы і маляўнічай Белавежскай пушчы. Казачная прыгажосць наднараўскіх лугоў, смалісты подых сасновых лясоў, свежасць вячэрняга паветра глыбока ўліваліся ў чару душы маладога вясковага хлапчука, які пазней напіша:

Ля ціхай хаты, на галінах
Калыша птушак дуб-равеснік.
І гэта ёсць мая Айчына,
Якой спяваю свае песні.

— У бацькоў было нас пяцёра — я і чатыры сястры, — успамінае. — Я быў наймалодшы, дык вядома, што пра мяне дбалі. Мабыць, быў распушчаны як адзіны сын і брат у сям'і. Памятаю з дзяцінства адно — ніколі не ведаў, куды палажыў шапку, кашулю ці порткі. Калі ўставаў, уся сям'я шукала мне гэтыя рэчы.

Дзіцячыя перажыванні, вобразы навакольнага краявіду, сны глыбока запусцілі карэнні сваёй прыгажосці ва ўражлівае сэрца будучага паэта. І вершы — гэта свайго роду рэха дзяцінства.

(Працяг на стар. 4)

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

[redacted]ледзь не напароўся на яе, на сваю куму Яўдосю. Было ўжо цёмна, марасіў назойлівы, халодны дождж. Я накінуў на галаву капішон сваёй прагумаванай курткі, уцягнуў шыю глыбока ў каўнер і пусціў свабодна лейцы. Кабылка сама дамоў дарогу ведае...

Сумныя думкі мяне абселі, як гэтае дажджлівае надвор'е. Такога года я не памятаю. Амаль кожны дзень дождж і дождж. Дарогі размыла, нават пустым возам цяжка праехаць. Але што там дарогі! Што на полі чаўпецца! Вось праблема! Бульба або зусім вымакла, дзе ніжэй, пры лугах, або ўрадзілася такая дробненькая, быццам гарох. Яна любіць, каб яе прынамсі два разы абараць, забаранаваць і так далей. А тут адзін раз я з сошкаю ледзь улез. А бульба — гэта ж і жывёлагадоўля. Прыдзецца, бадай, напалавіну абмежаваць колькасць кормнікаў. Палашка мая бурчыць і не згаджаецца. Кажа, што зараз дзяржава падбавіла па пяць злотых на кожным кілаграме, а можа і яшчэ крыху падкіне, калі ўсім іншым цяпер павышаюць зарплаты. — Дык навошта траціць? — даказвае мая жонка. —

### НЕ ТОЛЬКІ ГРОШЫ...

Трэба больш налягаць на іншыя кармы. Паглядзі, — гаворыць яна, — недалёкі наш сусед збіў звычайную загарадзь проста на полі, загнаў туды штук 20 парсюкоў, возіць з малачарні сыроватку, падкідае зялёныя кармы ды на зіму ўсё гэта прадае дзяржаве і мае гатовы грош...

Так даказвала мая паважаная жонка, якая заўсёды лепш ад мяне ведае, што новага на свеце чаўпецца.

Але ці справа толькі ў грашах? Я ж сам яшчэ памятаю, што зараз жа пасля вайны, яшчэ перад рэформай, найвышэйшай вартаснай паперкай быў у нас аднатысячны банкнот. Пасля грашовай рэформы ў пачатку 50-х гадоў увялі пяцісотку. Па-рознаму ахрысцілі яе людзі: адны гаварылі, што гэта „брудас“, хіба ад яе цёмна-карычневага колеру, іншыя называлі яе „гурнікам“ або яшчэ інакш. Пасля паявілася зноў аднатысячная вартасная паперка, пасля двухтысячная... Ці чарга цяпер на пяцітысячную? Поўная сярэдняя зарплата ў адной паперцы! Проста і лічыць не трэба. Ніякі махляр тут цябе не абдуе...

Спадзяюся аднак, што да гэтага не дойдзе. Маю надзею моцна абгрунтавалі рашэнні шостага пленарнага пасяджэння Цэнтральнага Камітэта партыі і вывады з апошняй сесіі Сейма. То ж сам першы сакратар Каня бараніў становішча польскай залатоўкі, гаворачы, што яе курс у адносінах, напрыклад, да долара, зусім зараз не абгрунтаваны правіламі эканомікі.

Хаця, калі паглядзець у гісторыю, то ўжо было ў нас так у пачатку 20-х гадоў, што курыца каштавала мільён польскіх марак. Бацька мне расказваў, што на кірмаш грошы вазілі ў торбе, як сечку каню.

Сын з Варшавы піша, што ад 1 кастрычніка падбавілі яму зарплату на звыш 1000 злотых. Дачка ў Беластоку скардзіцца, што далі ёй толькі на 600 зл. больш. А я сабе думаю так: ці цешыцца з гэтага, ці сумаваць? Калі ўсе гэтыя дабаўкі да зарплатаў паасобных рабочых і ўсіх іншых працаўнікоў скласці разам, тады атрымаецца... не, мой мужыцкі розум так далёка не сягае, хіба дзесяткі мільярдаў...

А з паяўленнем грошай у сям'і родзяцца ўсё новыя запатрабаванні. Жонка раптам не хоча мыць калісонаў у звычайнай пральнай машыне, а патрабуе аўтамат, пры якім можна газету чытаць, дзеці крычаць, што не падабаюцца ім абы-якія свіцеры, толькі давай „шатланды“, пан сям'і і хатняга вогнішча з зайздрасцю пачынае глядзець на суседзяў, якія пад яго вокнамі чысцяць свайго „малюха“. Глядзіць і думае: „Як бы тут знайсці нейкага знаёмага з шырокімі „плячыма“, хто дапамог бы, вядома, не бескарысна для сябе, купіць гэты аўтамабіль...“ — і злуецца, што ані братоў, ані швагроў, ані дзядзькоў не мае сярод начальнікаў. Так яно заўсёды пачынаецца. То я і гавару сваёй Палашцы, што грошы шчасця не даюць.

(Працяг на стар. 5)

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

## ВАЙНА І КВЕТКІ

Калі людзі гадуюць кветкі, дык гэта таму, што любяць прыгажосць і хочуць, каб яна нас акружала. Людзі выязджаюць у лес, каб падыхаць пахам сасны. Людзі любяць лотаць, незабудкі, ландыш і ўсё квецце, бо яно цешыць нашу душу, супакойвае нервы, дадае радасці ў жыцці.

Я не веру, што існуюць людзі, якія не любяць прыгажосці. Нават злачынцы з палёгкай выцягваюцца на мяккай коўдры муравы, каб аблегчыць сумленне: „Якая прыгажосць, а я, дрэнь, прыношу людзям толькі зло“.

Так, нават адзін дрэнны чалавек можа прынесці няшчасце многім добрым, спакойным людзям.

Чалавек гадуе дзяцей. Галубіць іх і цешыцца імі, калі здаровыя, вясёлыя і добра развіваюцца. Сэрца яго напаўняецца радасцю, калі глядзіць на іх, бы на тыя кветкі, і замірае на адну думку аб іх будучыні.

Хаджу па гайнаўскім могільніку савецкіх воінаў. Там іх, кветак, ляжыць 1223. Яны загінулі ў баях за вызваленне Гайнаўкі і Гайнаўшчыны. За вызваленне іншых, цябе і мяне. Не ўсе прозвішчы віднеюць на таблічках, а толькі адно-два і дзесяць невядомых. Сярод іх ляжыць Герой Савецкага Саюза малодшы лейтэнант Аляксей Фларэнка, якому было няпоўных 22 гады. Пакоіцца там і Ірына Барысенка-Мітлаш, 28 год, лекар-капітан, і, бадай, з іх усіх найстарэйшы, 42-гадовы падпалкоўнік Мікалай Пазаеў.

Яны толькі паспелі ўвайсці ў жыццё і ўжо вайна адняла іх ад бацькоў. Як бы мы вайну не праклінали і што б мы аб ёй не гаварылі, то ўсё роўна слова „вайна“ астаецца паняццем і нічога яна, як тэрмін, сабой не прадстаўляла б, каб за словам „вайна“ не стаялі людзі і не планавалі, як згубіць другіх людзей. Людзі высокаадукаваныя, людзі ў мундзірах і з ардэнамі. Людзі, якія ўмеюць гуляць, смяяцца, гадаваць сабак, нюхаць кветкі, умеюць любіць і хочуць быць любімымі. Здавалася б, нармальныя людзі.

Калі разбілі фашысцкую Нямеччыну, мілітарыстычную Японію, здавалася, што мір запануе назаўсёды. Аднак не. Генералы вырашылі, што трэба бітага дабіць атамнай бомбай і аднačасова паказаць камусьці сваю перавагу. Яшчэ гарэлі гарады, паміралі людзі і тлеў свет ад адных пажарышч, як пачалася гонка ўзбраення. Цяпер, калі выбіраюць нейкага прэзідэнта, чалавек думае: „Які ён будзе да вайны?“. Але гэта думка простага чалавека не адбягае ад думкі дыпламатаў і афіцэраў генштабаў. Проста ўсе навучыліся і прывыклі думаць такімі катэгорыямі, быццам галава дзяржавы не мае іншых турбот акрамя вайны і яе падрыхтоўкі.

Простыя людзі хочуць міру, хочуць спакойна працаваць, гадаваць дзяцей для будучыні яснай, здаровай, вясёлай. Колькасць людзей на Зямлі няхай рэгулюе сама прырода, а не чалавек ядзернай бомбай. Няхай на зямлі растуць лясы, кветкі, травы, ды сапраўдныя грыбы, а не грыбы ад тэрмаядзерных выбухаў. Мы не хочам хірасім і нагасакаў, не хочам яшчэ раз перайсці цераз пекла ўласнай трагедыі. Мы хочам кветак на нашых лугах, хлеба, чыстай вады, поўных рэк рыбы і вясёлага смеху нашых дзяцей.

Васіль Петручук

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ


## ПАЛОНІЦЬ ЧАС

Шкада мне дзён,
што адцвілі дарэшты.
Шкада гадоў,
пражытых без пары.
І толькі сум
на дне галосіць нешта
і сцелецца
ў маршчынах на твары.

Палоніць час
гарачым успамінам
і коіць сум
усмехам дабраты.
Глыбокі след
у памяці пакінуў,
які яшчэ
дагэтуль не астыў.

І тліцца дзесь,
каб радасцю глыбокай,
зноў запаляць
агеньчыкі ў вачах.
Гады мае,
я чую вашы крокі,
і ў поцемках
шукаю па начах.

**Леапольд Танкевіч**



* ✲ *

сустрэча па гадах
згорбленая размова

рэканструкцыя упаўшых дрэў
у вопратцы слоў

прыжмуранае вока праўды
глядзіць згары

так гаварыць
будаваць (каторы раз?)
сляпы мост
над высахшай ракой

**Надзея Артымовіч**

## ПОДЫХ СМЕРЦІ

Бабулька ляжыць на мурогу,
Да зямлі прытуліўшыся вухам.
На твары няпэўнасць, трывога.
Памагаецца быццам паслухаць,

Што чуваць пад ёю, глыбока,
У бяздонні зямелькі айчыннай,
Куды ў часе так недалёкім
Адысці назаўсёды павінна.

**Віктар Швед**

* ✲ *

Хочуць чорнай цябе зрабіць
Маю белую з сінім небам
На смяротным спаліць кастры
Загубіць і душою і целам

Я з балотных тарфяных крынічак
Піў натхненне на купіне лёгшы
З багуноў і божых расічак
Прыгажосць браў задарам без грошай

Ну а людзі бязлітасна губяць
У імя шчасця прыроду і песні
І таму ные сэрца у грудзях
І таму пішу сумныя вершы

**Ул. Гайдук**

## ПІЭСЭНЬКА ПРО НАДІЭЮ

в сюом домові
дэ каждый мае
своіх прыятелюов
кім жэ ж тая
что вступае в новы дуом
хоч нэ вступае
в новэ жыце

і так засынаем
с своім раком пуод подушкою
і нам утікаті
нэма ужэ дэ
хоч пранічкі солодкі
сняцьця по ночах

**З. Сачко**

# Алесь Барскі

### СЕМДЗЕСЯТ ДРУГОЕ

*У праўды ўчарашнія сёння не веру,*
*Дашчэнту разбітыя формы структуры.*
*Далоў усе метрыкі, нормы, размеры.*
*Далоў трафарэтную монакультуру.*
*А верш рыфмаваны —*
*Ці ж ён не шаблонны?*
*А рытміка ў вершы —*
*Не ёсць перажытак?*
*Жытнёвыя, вечныя ў полі паклоны,*
*Нязменная песня бандарскага жыта.*
*І я знармаваны, як колас адвечны,*
*З зямлі вырастаю у вечнае неба.*
*О, як традыцыйная ў вершы*
*сардэчнасць,*
*О колькі ж у вершы бандарскага*
*хлеба!*

### СЕМДЗЕСЯТ ТРЭЦЯЕ

*Узлёт і упадак —*
*Нераздзельнасць.*
*Чым вышэй,*
*Тым ніжэй.*
*Такі закон прыцяжэння.*
*Нягледзячы*
*На фінальныя крахі,*
*Заўсёды будзем імкнуцца*
*Да ўзлёту.*

### СЕМДЗЕСЯТ ЧАЦВЕРТАЕ

*Пакуль не ўсе яшчэ*
*Лісты зляцелі з дрэваў,*
*Пакуль яшчэ надзея*
*Гнездзіцца у травах,*
*Думаць не трэба*
*Ні аб правых, ні аб левых;*
*Аб паражэннях горкіх,*
*Аб салодкіх славах;*
*А толькі аб траве*
*І аб птушыных шчасцях,*
*Аб тым, што у зямлі*
*І ў сэрцы ёсць супольным.*
*Каб свету не дзяліць*
*На дозы і на часці*
*І жыць са светам так,*
*Як роўны жыве з роўным.*
*Выйсці у луг*
*І пакланіцца травам нізка,*
*Пасля узняцца*
*Да лугоў паднебных, сініх.*
*І быць заўсёды пры айчыне*
*Сваёй блізка*
*І паўтараць яе святое*
*Заўжды імя.*

### СЕМДЗЕСЯТ ПЯТАЕ

*Жыццё —*
*Ты хісткая над трасіною кладка;*
*Мне праз цябе ісці —*
*З трывогай і адвагай.*
*Ды не прайсці ніяк*
*Выключна гладка,*
*Заўжды пад пурпуровым,*
*Пераможным сцягам.*
*Не абыйсціся нам*
*Без горкіх паражэнняў,*
*І не пазбегчы у жыцці*
*Балючых крахаў,*
*Вораг заўсёды прагне*
*Кінуць на калені*
*І схоча павучыць*
*Маліцца богу-страху.*
*Мы часта ходзім*
*У атакі памылкова,*
*Вяртаемся са скальпамі*
*На сваіх піках.*
*Потым на ўласных*
*Не знаходзім мы галовах*
*Скуры, сарванай сваёй*
*Страсцю дзікай.*

### СЕМДЗЕСЯТ ШОСТАЕ

*Ва ўсім усумніцца можна:*
*У найсвяцейшых праўдах,*
*У ідэях і прынцыпах.*

## БЛІЗКАСЦЬ ДАЛЁКАГА



*Можна верыць,*
*Можна не верыць.*
*Нельга толькі сумнявацца*
*У смяротнасці жыцця*
*І несмяротнасці смерці.*

### СЕМДЗЕСЯТ СЁМАЕ

*Як красавік над Нарваю паселіцца*
*І кветкі з зоркамі пачнуць*
*спаборнічаць,*
*Дык у Варшаве сэрца не вяселіцца*
*І ў Бандары ўсё болей яно горнецца.*
*Мо хтось, браты, жыве з вас*
*ватыканамі,*
*Ерусалімамі ці капітолямі,*
*А я ўстаю з праменнямі заранньмі,*
*Не расстаюся з нарвянскаю роляю.*
*Нерухамею ціха над чаротамі,*
*П'янею ад уздохаў свайго ворыва.*
*І з мукаю глыбокай і з турботаю*
*Чакаю крыку эмігранта-жорава.*

### СЕМДЗЕСЯТ ВОСЬМАЕ

*Ад перамогі толькі*
*І да перамогі —*
*Ісці усё жыццё —*
*Не дай вялікі Божа!*
*Калоды час ад часу*
*Кідай мне пад ногі*
*І насылай ты на мяне*
*Людзей варожых!*
*Бо жыць заўсёды*
*Толькі ў самазахапленні*
*І верыць у сваю*
*Выключна дасканаласць —*
*Значыць паволына траціць*
*Людскую бясцэннасць*
*І танным станавіцца,*
*Нарцызам без мала.*
*Не слухай падхалімаў —*
*Ясная удача,*
*Бо яд кіпіць*
*У іх салодкіх словах.*
*Не забывай, што найбліжэй*
*Ад смеху — плачы,*
*А час — суддзя*
*І непадкупны і суровы.*

### СЕМДЗЕСЯТ ДЗЕВЯТАЕ

*Разамлела поле*
*Пад промнямі;*
*Карміцелька-карова*
*Пераўварала зелень травы*
*У бель малака,*
*Звінела каса,*
*Смяялася дзіця,*
*Спявала птушка,*
*Маліўся колас.*
*Было так, як тады,*
*Калі Бог быў чалавекам,*
*А чалавек Богам.*

### ВАСЬМІДЗЕСЯТАЕ

*Сны па айчыне каляровай*
*І балючай,*
*Мастацтва —*
*Крык адчаю ці здзіўленне.*
*Якія ізмы да канца замучаць*
*І кінуць дарагую на калені...*
*О, сонечны мой край,*
*Я без цябе прапашчы.*
*Іконы Полацка*
*Мне часта сняцца.*
*Навошта свет*
*Вясёлы і гуляшчы,*
*Калі з табой*
*Я не магу звязацца.*
*Падляшша,*
*Белавежа,*
*Бандары над рэчкай.*
*Тут мае рымы і афіны.*
*І кожны крок у свет —*
*Мая асечка*
*І перамога —*
*Крык мой да айчыны.*

### ВОСЕМДЗЕСЯТ ПЕРШАЕ

*Ты — чыё сэрца*
*З'ела абыякавасць,*
*Ты — чый розум*
*Зняволіла рэнегацтва,*
*Ты — чые вусны*
*Гатовы апляваць*
*Усё роднае,*
*Успомні часам,*
*Што меў маці.*
*А калі не ўспомніш —*
*Забудзь,*
*Што быў чалавекам.*

**Алесь Барскі**

# Сакрат Яновіч

## Пахаванне Гандзі

Гандзі пашанцавала са смерцю: памірала спакойна, як і жыла. Яна выбралася на той свет у пару: гаспадарка выадпаведнілася, і сама не была ўжо зараз надта патрэбнай.

Бабы, што зыйшліся на яе пахавіны, зайздравалі Гандзі. Хата стаяла, як шклянка, і новы хлеў, і гумно на два такі, і вялікі сад; не сорамна ёй, працаўніцы, перад Богам. І ўсе шкадуюць яе, і дзеці ўспамінацьмуць; нядоўга хварэла яна ў пасцелі.

Добра паміраць у гэтай сядзібе!

На прычэсаную, чысценька ўбраную нябожчыцу чула пазіралі старыя жалобнікі, трохі з крыўдаваннем, як у тых, хто на сваё перажытае аглядаецца без гонару...

Развіталі Гандзю, не галосячы і не прычытваючы; яксьці ў задуменні, і старэкі і маладыя. А на памінках — не ўпіўся нават Літровы Антак, чыста схвалілі людзі пекненька аздобленую прычэпу, на якой везлі труну да самых моглiц, ды і трактар, што, усё роўна бы знароўлены смутэчаю конь, псаваўся (каля кузні Лапы выменялі шворань). Нявестка плакнула над магілаю Гандзі, прыемна было глядзець, — неяк далікатна, з тонкім уздрыгам барады, высокая і ў сукні з каштоўністай чэрні, у лакерыцах ды амерыканскім парыку з кудзеркамі, пад вэлюмікам. Сын жа нябожчыцы, што і казаць: выліты дырэктар — вылюдзіўся ён на кантрактацыях цялят.

Адбылося, як у тым кіно пра панскія маёнткі.

Па Гандзі змуравалі (потым) помнік, з анёлкам па-над крыжам; беластоцкі каваль збіў жалезны платок, накляпаў на яго ружаў з бляхі. Поначы загараецца там лямпачка, ад акумулятара (з аўтаматычным выключальнікам).

Гандзі няма чаго наракаць: спазнала бяды, але і раскошы ўрэшце!

Хто ж гэта калі чуў, каб на нашай вёсцы так чалавека хавалі?..

Гандзю першую.

**С. Яновіч**

**БУГ У АГНІ**




З вёскі Слохі Аннапольскія накіраваўся я шашою аж за Драгічын. Зараз жа за вёскай Заечнікі, дзе калісьці знаходзілася пагранічная застава, дарога набліжаецца амаль да ракі, і шэрае, мутнае русла Буга верна спадарожнічае нам да самага старажытнага горада Драгічын. Гледзячы на спакойную зараз раку, якая плыве ў глыбокіх, абрывістых, жывапісных берагах, я бачыў яе запоўненай агнём і думаў пра чэрвеньскія дні 1941 года, пра тую трагічную нядзельную раніцу...

Гэта тут рэдкім ланцужком размяшчаўся **шаснаццаты асобы кулямётны батальён**, якім камандаваў капітан **А. В. Назараў**. Пра яго я ўжо пісаў. Камандзір узвода **сувязі** гэтага батальёна І. Г. Шандараў, абапіраючыся на расказ іншых салдат, паведаміў мне вестку, што Анатолій Васільевіч Назараў загінуў, ведучы свой батальён са сцягам у руках у апошнюю атаку на ворага.

Іван Іванавіч Змейкін, тадышні лейтэнант, камандзір 2-ой роты гэтага ж 16-га кульбата, у сваіх успамінах яшчэ інакш паясняе гібель чырвонага камандзіра. Ён піша:

*„На левым флангу нашага батальёна ў раёне вёскі Крупіцы абаранялася першая рота лейтэнанта З. Д. Сокала і падраздзяленні штаба. Абарону там, як я даведаўся пазней, узначальваў камандзір батальёна, капітан Назараў. Пасля вайны, шукаючы сям'ю, я наведаў гэтыя мясціны, дзе давялося нам біцца з ворагам. Мясцовыя жыхары расказваюць, што капітан Анатолій Назараў загінуў ад разрыву снарада...“*

Толькі разбураныя доты, якія сустракаюцца тут уздоўж шасейнай дарогі, маглі б расказаць нам голую праўду. Яны аднак маўчаць і вельмі неахвотна адкрываюць людзям свае тайны. Затое народ, вечны стваральнік найбольш трывалай праўды, той праўды, якая становіцца легендай, назаўсёды ўжо паставіў у лік сваіх герояў такіх людзей, як гэты адзінокі „чорны“ кулямётчык з Крупіцкіх хутароў, як капітан Назараў, як старшы сяржант Сініцын, як... **Макараў Якаў Іванавіч...**

Гэтае апошняе прозвішча пачуў я ўпершыню ў вёсцы Мінчэва. Знаходзіцца яна ўжо на паўночны захад за Драгічынам, кіламетрах у пяці направа ад шашы. Паехаў я туды пасля таго, як прачытаў успаміны Івана Змейкіна, як яшчэ раз праслухаў расказ Івана Ваўрэнцюка, ад якога я даведаўся, што ў Мінчэве жывуць далёкія яго сваякі і яны маглі б шмат чаго расказаць мне аб падзеях у іх роднай вёсцы Мінчэва.

*„Другая рота батальёна,* — пісаў І. І. Змейкін, — *якой камандаваў я, займала ўчастак у раёне вёскі Мінчэва. Камандзіры жылі на прыватных кватэрах, а рэзлікі дотаў размяшчаліся ў зямлянках недалёка ад агнявых пунктаў...“*

Пра гэта і хацеў я распытаць людзей у Мінчэве. Найперш, аднак, накіраваўся я ў разваліны дота, які тырчыць тут над прасторнай далінай, прыросшы навечна да схілу ўзгорка. Дот вялікі, з дзвюма амбразурамі, у якіх устаноўлены былі гарматы. Царапіны ад кулямётных куль, паразрываныя жалезныя пруты, акопчаныя сажай сцены, — усе гэта лепш чым словы сведчыць аб крывавым пекле, праз якое прайшлі тут людзі...

І раптам нечаканасць. На сцяне, ля ўваходу ў дот чырвонай фарбай выведзены памятны надпіс:

**„Здесь в 1941 г., защищая рубежи границы, погибли советские солдаты, в том числе МАКАРОВ ЯКОВ ИВАНОВИЧ.**

**В знак вечной доброй памяти, посадили тополя сестра Мария с мужем Кронидом из города Тольятти. 24.XI.79 г.“**

Пасадзілі таполі... Захаваліся яны, растуць, яшчэ маленькія, кволыя і бездапаможныя, нават сфатаграфаваць іх няма як. Але праз некалькі гадоў, калі зашумяць густым лісцем, прыйдуць людзі, прачытаюць надпіс і задумаюцца над лёсам салдата. Кім ён быў, як трапіў сюды аж з Куйбышаўскай вобласці?

Запытаў я пра гэта сваякоў Івана Ваўрэнцюка. Марыя Бярэза і яе муж Тэафіл супольна рашылі, што найлепш будзе, калі яны паклічуць сваіх аднавяскоўцаў — Міхася Мішчука і Яна Дзмітрука. Першы прыйшоў Мішчук. Гэта ўжо 65-гадовы селянін, плячысты, але невысокі.

— Гэтымі рускімі салдатамі, — кажа ён, — была запоўнена тады цэлая наша вёска. У мяне, напрыклад, стаяла на кватэры 17 чалавек, у суседа — 15, у іншага суседа — 13 байцоў. Працавалі яны пры абсталяванні „точак“, бункераў, значыць.

(Працяг на стар. 6)

**З РАСКАЗАЎ ДЗЕДА РАМАНЧУКА**




У нас іх называюць пасталамі. „Кабы лапці мець, трэба умець сплесць“. А сплясці тыя лапці не кожны ўмее. Трэба прайсці спецыяльны курс у старэйшых. Дзед вучыць унука, татко — сына. Лапці, як вядома, плятуцца з ліповых лыкаў. Старыя пастухі ў лесе, бывала, часта ходзяць, абвешаныя пуценькамі лык. Пастух неміласэрна абдзірае ўсюды ліпу і, маючы час, пляце лапці. Пачынае з „язычка“, робіць „загаловак“, пляце падошву „сяродак“, а па баках „вушы“, а калі дойдзе да „пяты“, падшывае падошву другім лыкам. Калі лапаць гатовы, завалакае ў „вушы“ аборсы, — вяроўкі з канапель, ногі акручвае белымі палатнянымі анучкамі і аборсамі прывязвае. Які ж гэта лёгкі і зручны абутак для чалавека!

Часам, калі хочуць панізіць чалавека, то кажуць: „Ах ты лапаць!“. Калі часта чалавек і заслугоўвае на паніжэнне, то лапаць ніколі не заслугоўвае. Лапаць — першы абутак чалавека. Гэта



дзед і прадзед усіх цяперашніх абуткаў. Трэба ж было чалавеку выдумаць лапаць — з чаго зрабіць і як зрабіць!

У лапцях калісьці хадзілі ўсе: мужчыны, жанчыны, хлопцы і дзяўчаты. Пазней замянілі іх „цюмкі“, зробленыя з абробленай шкуры, таксама з аборсамі, ды ўжо раменнымі. Потым яшчэ сталі шыць чобаты для мужчын і чаравікі для жанчын. Пашытыя чобаты служылі чалавеку мала што не на ўсё жыццё. Малады хлапец павінен быў мець чобаты да жаніцьбы, а дзяўчына чаравікі да вянца. Часам жаніх купляў сваёй нарачонай у падарунку чаравікі. Старыя людзі і дзяўчаты ішлі ў царкву босыя, а надзявалі абутак каля мястэчка ці каля царквы.

**У. Г.**

**БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80**



*Аляксандр Раманюк з Дубяжына. II месца ў катэгорыі фальклорнай песні.*
*Фота М. Шаховіча.*

(Працяг са стар. 1)

# НЕ ТОЛЬКІ ГРОШЫ...

— Дурань ты і больш нічога, — кажа яна. — Сам жа ж ведаеш, што наш Мікалай змяніў кватэру і зараз мэблюецца. Адзін толькі гарнітур каштуе 40 тысяч. Аж з Быдгашчы ў Варшаву яго спецыяльна прывезлі! Там дапамаглі яму купіць. Каб ты пабачыў, які гэта прыгожы камплект мэблі. Цэлую сцяну займае. Трэба ж яму дапамагчы! Да каго ж ён звернецца, калі ў яго работа такая, што ніхто яму з боку нават залатоўкі не падкіне. Гэта ж наш сын. Казаў, што ён і яго жонка ўжо на два гады запазычыліся ў гэтай іх запамаговай касе... Можа гэтая апошняя дабаўка да зарплаты дазволіць ім крыху падмацавацца... А пакуль што не зашкодзіла б нейкіх 10 тысяч ім падкінуць.

Так трапала языком мая Палашка, а я словам не мог ёй запярэчыць, бо што праўда, дык праўда. Толькі на дне маіх мазгоў ледзь іскрылася нясмелая думка: ці абавязкова было яму купляць гэты гарнітур аж за 40 з лішнім тысяч? Ці нельга было крыху скрамней?

— А што?! Нашы дзеці горшыя ад іншых, ці што? — запярэчыла мне Палашка і зараз яшчэ дакінула пра тое, як прыгожа выглядае, калі наш зяць забурчыць сваім „малюхам“ перад нашай хатай, калі суседзі праз вокны ўзіраюцца, як з гэтай „калыскі“ выскакваюць вясёлыя нашы ўнукі і бягуць да нас, каб абняць за шыю і пацалаваць (па гарадскому звычаю) сваю бабульку ў руку. Тады сэрца аддаў бы, не толькі грошы!

Чакаю іх прыезду на Пакрову. Гэта ў нас традыцыйны фэст. Двух бараноў ужо зарэзаў. Адзін пойдзе на стол, а другі ў сумкі маім дзецям. Хай ядуць наздароўе, пакуль мы яшчэ можам па свеце хадзіць, бо гавораць, што з мясам зараз у іх найгорш. Можа палепшыцца, калі ўвядуць гэтыя талончыкі на мяса, пра якія ішла гутарка на пленуме. Цікава толькі, ці і мы, сяляне, таксама іх атрымаем?

У гэты момант мая кабылка неяк баязліва захрапла і спынілася. Я падняў галаву і ў вячэрняй дажджлівай цемры ўбачыў нейкую жанчыну, якая на плячах валакла з лесу клунак сухога галля. Была гэта мая кума Яўдося. Пра яе я раскажу вам іншым разам, але цяпер вось падумаў я, што яна ўжо на пенсіі, мае дзяцей, якія на пасадах, а ў лес за топлівам сама пешшу вымушана хадзіць. Ой, не толькі грошы ў жыцці нам патрэбныя!

**Максім Нурэцкі**

Калі дажыву да пенсіі, не застануся ў Варшаве ні на адзін дзень. Еду ў Бандары. Там я свой, а ў Варшаве чужы.

Каб мог жыццё пачаць аднова,
пачаў бы ад касы і плуга,
зямлі астаўся б шчырым другам...

Гэтак пісаў ён некалі ў сваім вершы. І большасць яго твораў пабудавана на жыццёвым вяскова-гарадскім парадоксе. Яго паэзія — гэта верны вобраз вёскі. Трывога за роднае слова, за яго лёс, захапленне, пахвала і пашана да сялянскай працы.

— Ніколі не сняцца мне ні універсітэт, ні рэдакцыі, але вельмі часта не скошаная да канца трава, або не звезенае з поля жыта. Калі ідуць зацяжныя дажджы, я не знаходжу ў Варшаве месца. Усё думаю, як там на нашым полі, — гаворыць.

Навуковы працаўнік ён толькі ў Варшаве. Дома, у Бандарах, ён зноў становіцца гаспадаром. Часта можна яго сустрэць за плугам, ці як едзе ў лес па дровы, ці з касой на загоне.

— Каб не быць пустаслоўным, дык скажу, што ў гэтым годзе ўласнаручна зжаў я 35 коп аўса, 15 коп жыта змалаціў, — гаворыць. — Парадокс заключаўся ў тым, што ніводзін з карэнных сялян у маёй вёсцы не скасіў такой колькасці збожжа рукамі, усе чакалі машын.

Пачатак паэтычнай творчасці Алеся Барскага ў палове саракавых гадоў.

— У 1945 ці ў 1946 годзе я прачытаў у нейкай польскай газеце інфармацыю аб паэтычным конкурсе. Напісаўшы некалькі дзесяткаў вершаў, пасла́ў я іх на адрас газеты. Адказу чакаў з нецярплівасцю. І „надышоў“. Мо і добра, што так здарылася, бо вершы былі слабыя.

Як потым выявілася, на канверце напісаў ён дрэнны адрас, і лісты, абышоўшы палавіну краіны, вярнуліся назад. Афіцыяльны творчы дэбют спалучаецца з 1958 годам, з беларускім тыднёвікам „Нівай“. Баючыся, што творы акажуцца слабымі і могуць іх высмяяць, падпісаў іх псеўданімам Алесь Барскі, які зрадзіўся з яго сапраўднага прозвішча, з якога выкінуў склад „шчэў“. Дэбют быў удалы. Гаварыў аб вялікім таленце і паэтычнай душы пачынаючага паэта. Усё часцей і часцей на старонках „Нівы“, а потым і іншых часопісаў як у Польшчы, так і ў БССР паяўляліся яго творы. Потым асобныя кніжныя выданні: „Белавежскія матывы“, „Жнівень слоў“, „Мой бераг“, — плады дваццацітрохгадовага паэтычнага шляху.

— Пішу я вельмі нерэгулярна — то часам за дзень паўстае некалькі твораў, то на працягу месяцаў не напішу нічога.

Другая постаць гэтага чалавека — навуковы працаўнік. Апублікаваная асобным выданнем першая частка „Гісторыі беларускай літаратуры“, два тамы перакладаў на польскую мову беларускіх народных казак, сабраных М. Федароўскім, з'яўляюцца вынікамі працы ў даследаванні літаратуры і фальклору. Ужо больш 150 студэнтаў атрымала з рук А. Баршчэўскага і пад яго кіраўніцтвам магістэрскія дыпломы.

Ведаюць яго не толькі ў Польшчы. Ведаюць у Савецкай Беларусі, быў у Францыі і ў Англіі.

— У БССР быў я каля пяцідзесяці разоў. Шматлікія аўтарскія сустрэчы, лекцыі. Быў таксама запрошаны ў ЗША, але не паехаў толькі таму, што ўнутраны голас прымушаў мяне ехаць у вёску касіць. Там пабудаваў хлявок, які перарастае любы мой верш ці паэму.

І стукне часамі па шыбах яго варшаўскай кватэры дождж, зашчабеча птушка і ўспомніцца вёска, здаецца, яна яго па-свойму кліча. Сядае і едзе. Едзе з вялікай палёгкай, так, як бы вяртаўся з падарожжа дамоў, на сваю наднараўскую Айчыну, пад страху Белавежскай пушчы, дзе:

...ціха спявае мой край белавежскі,
пялёсткі ссыпаюцца з вішні, чарэшні,
а зоры дрыжаць і злятаюць на сцежкі,
бярозы тут — песні, і сосны тут —
песні...

**Міхась Шаховіч**
**Фота З. Лянкевіча**

(Працяг са стар. 2)

# Пра свабоду сумлення

„Як прадстаўнік праваслаўнай царквы, — сказаў на прыёме ў Філарэта мітрапаліта Мінскага і Беларускага патрыяршага экзарха Заходняй Еўропы епіскап Мікалай Саяма (Японія), — я быў у многіх краінах свету і ведаю пра становішча веруючых там. Магу сказаць, што тут убачыў я поўную свабоду веравызнання“.

„І цяпер яшчэ, — дадаў член гэтай жа дэлегацыі доктар Аксёнаў, — у замежным друку можна знайсці выказванні, быццам у Савецкім Саюзе цэрквы зніштожаны, а веруючыя сядзяць у турмах. Мы пераканаліся, што ўсё гэта на самай справе не так: і цэрквы ёсць і веруючыя наведваюць іх“.

Паміж Савецкай дзяржавай і царквою няма ніякіх канфліктаў і цяжкасцей ва ўзаемных адносінах. Свабода сумлення ў поўнай меры не на словах, але ў сапраўднасці мае сваё выра шэнне ў нашай сацыялістычнай агульнанароднай дзяржаве.

**Любоў Бельская**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Д. згадзіўся пабудаваць К. дом. Пабудова не была яшчэ закончана, а ў выніку няправільнай пабудовы фундамента адна сцяна пачала асядаць, а на прылеглых сценах паказаліся трэшчыны. Д. пакінуў будову і адмаўляецца пакрыць шкоду. Ён тлумачыць, што надзор над будовай даверыў свайму брату, з віны якога ўзнікла шкода, і трэба ад яго патрабаваць кампенсацыі. Брат тлумачыцца, што ён выконваў толькі загады Д. і быў фармальна толькі яго работнікам. Хто з іх павінен адказваць за шкоду?

АДКАЗ: Калі той, хто згадзіўся выканаць працу, давярае гэта іншаму, то, як правіла, адказвае за шкоду, якую зробіць выканаўца працы, так як бы гэту шкоду зрабіў сам. Аднак асоба, якой даверана выкананне працы, павінна дзейнічаць у граніцах, якія ёй вызначыў той, хто ёй даверыў работу. Калі б і далей справа была ўстаноўлена, што Д. даверыў пабудову свайму брату, то нават калі б той дзейнічаў у азначаных яму граніцах, Д. не мог бы звольніцца ад адказнасці за дзеянне брата, бо ён адказвае за дабор асобы, якой ён працу даверыў. Аднак калі б брат Д. дзейнічаў нязгодна з дырэктывамі Д., то мог бы адказваць за сваю дзейнасць. У даным выпадку найлепш падаць у суд на Д. і яго брата. Хай яны самі даказваюць, хто з іх вінаваты.




Дарагое Сэрцайка, непакоіць мяне тое, што дзеецца ў маёй сям'і. Пажаніліся мы два гады таму назад. У нас маленькае дзіця, жывем мы ў доме маіх бацькоў — на „горцы", маем пакойчык і куханьку. Гэта выгадна. А калі кончыўся мацярынскі водпуск, мама згадзілася пільнаваць дзіця, а я пайшла на работу. І матэрыяльна не наракаць, бо абое працуем і нядрэнна зарабляем. Але вось мая сяброўка псуе мне настрой і нервы. Сябравала я з ёю яшчэ, калі была паненкай. Яна часта бывала ў мяне. Але я выйшла замуж, а яна надалей прыходзіць да нас. Калі я была цяжарнай, часам хацела легчы, адпачыць спакойна, але яна прыдзе і марочыць голаў. А калі нарадзілася дзіця, не мела я ўжо часу на праседжванне з ёю вечарамі, дык яна з мужам маім гутарку заводзіць і ўжо калі прыходзіць, дык і пытае адразу пра яго. Я там нічога не падазравала, проста адной сумна, то і прыходзіць, бо жыве на кватэры ў старой бабулькі. Але маме маёй гэта не падабалася і яна мяне асцерагала, што можа гэта дрэнна скончыцца. А я там толькі ўсміхнуся, ды рукой махну. Але цяпер ужо бачу, што мама мела рацыю. Сяброўка прыходзіць штораз часцей і мужу гэта падабаецца. Сядзяць, смяюцца, а я за работай і прысесці не маю часу. Ды і дзіцём муж ужо менш цікавіцца. А калі яна пойдзе, дык ён нейкі сумны, хутчэй спаць кладзецца. І праўду мама казала, што можа гэта дрэнна скончыцца. Але як пазбегнуць таго?

Эля з Беластока

**Эля!** Сяброўка паступае нетактоўна. У цябе сям'я — муж, дзіця. У вас розныя сямейныя справы. А дзіця малое, дык і работы шмат. Тут і мужава дапамога патрэбна. І такія частыя яе візіты напэўна стаюцца табе цяжарам. Ды і што тут казаць, бывае ж, што найсардэчнейшая сяброўка мужа забярэ. І для дабра сям'і вашай лепш яе пазбыцца. Скажы ёй разоў пару, як прыйдзе, што сёння вы заняты, ці штосьці такое. Павінна зразумець, што яна тут лішняя. А калі не, дык і адкрыта скажы, што візіты яе ўжо вам надакучылі і ўрэшце хочаце быць адны ў сваёй хаце.

**Сэрцайка**




## Фальклор

### ХРЫСЦІННАЯ




*Выпыла б дужо — боюся мужа,*
*муж мэнэ наб'е — нэ буду дужа.*
*Муж мэнэ наб'е соломыною,*
*поладымося пуд пэрыною.*
*Пуд пэрыною з Катэрыною,*
*а пуд рэдэньцём — і з цыэлым сэрцём.*

Ад Юстыны Галко, 1894 г. нараджэння, вёска Тафілаўцы гм. Дубічы Царкоўныя, запісаў 2 жніўня 1980 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфраваў Ян Бондар.



**У беластоцкім тэатры.** Сцэна з „Пустакоў" Э. Рэдлінскага ў пастаноўцы Е. Зэгальскага. У ролі Даяна В. Пісарэк, у ролі Фараона Т. Казлоўскі.

Фота Р. Сянько

(Працяг са стар. 5)




— Ці многа гэтых „точак" яны тут пабудавалі? — пытаю.

— Многа іх, — гавораць сяляне і пералічваюць на пальцах: — У вёсцы адна, пад лесам другая, над далінай трэцяя...

— Многа іх тут, — паўтарае Марыя Бярэза, а Мішчук дабаўляе, што толькі некаторыя былі гатовы да пачатку вайны.

— Ну і гэты салдат, — расказвае ён, — сястра якога сюды прыязджала, таксама стаяў у мяне на кватэры. Яшкай яго называлі...

— Значыць, Якаў, або Якуб па-нашаму, — заўважаю.

— Мусіць так, — згаджаецца селянін і дабаўляе: — Вясёлы быў хлопец. Прыгожа іграў на гармоніку. Я добра яго памятаю, бо мы былі амаль аднагодкі. Збяруцца, бывала, недзе дзяўчаты і хлопцы, а ён, гэты Яшка, калі свабодны ад службы, прыдзе са сваім гармонікам і ўжо пачынаюцца танцы ды спевы...

У хату зайшоў Ян Дзмітрук — селянін 72-гадовы, пасівелы, але яшчэ бадзёры і з выглядам інтэлігента. Найперш змерыў мяне суровым позіркам і патрабаваў дакументаў, ды пачаў падрабязна распытваць, хто я і чаму цікаўлюся ваеннымі падзеямі ў іх вёсцы. Затым расказаў вось такую гісторыю:

— Недзе праз год ці два пасля вайны ў нашу вёску прыйшоў ліст з Куйбышаўскай вобласці. Я яго і зараз недзе маю. Быў напісаны на ўпаковачнай паперы або на нейкім папяровым мяшку. Ліст гэты хадзіў з рук у рукі, але ў Мінчэве мала хто ўмее чытаць па-руску, дык урэшце людзі аддалі яго мне, бо я калісьці вучыўся ў рускай гімназіі і добра валодаю рускай мовай. Ліст пісала маці гэтага Яшкі. Богам і слязьмі прасіла, каб расказаць ёй пра лёс яе сына. Пашкадаваў я яе і напісаў, што ведаў. Пісаў, як яны тут жылі, як мы сябравалі, як абараняліся савецкія салдаты ў сваіх гэтых точках, хто дзе загінуў... І пра лагер для ваеннапалонных у Сухазебрах ды ў Танкелях успомніў...

— Гэтыя Танкелі ад нас тут недалёка, зараз на другім баку Буга, — заўважыў Міхась Мішчук.

— Там гітлераўцы забілі 25 тысяч савецкіх салдат, — працягваў свой расказ Ян Дзмітрук. — І аб гэтым я таксама напісаў. Ліст атрымаўся доўгі, на чатыры вялікія старонкі. Завёз я яго на пошту, купіў, колькі трэба было, паштовых марак, узяў квітанцыю і вярнуўся дамоў, задаволены, што зрабіў добрую справу, што ўцешыў сэрца невядомай мне маці вядомага салдата, які тут быў механікам, працаваў пры абсталяванні розных прылад у гэтых іх точках... Ажно праз пару дзён выклікаюць мяне ў гміну на допыты па справе майго лісту. Разы тры давялося мне паясняць усё ад пачатку. Урэшце пісьманосец прынёс мне і мой няшчасны ліст з пячаткай: *„Не прапушчана цэнзурай"*.

Ліст гэты, аднак, дайшоў да адрасаткі, да маці Якуба Макарава, байца, у гонар якога растуць таполі ля дота ў вёсцы Мінчэва. Але гэта ўжо асобная тэма.

**Віктар Рудчык**



*Іларыён Грыгор'евіч Шандараў — даўнейшы начальнік узвода сувязі 16 кульбата, у якім служыў таксама Якуб Макараў. Здымак з 1979 года.*

Здесь в 1941 г.
защищая рубежи
границы погибли
советские солдаты
в том числе Макаров
Яков Иванович.
В знак вечной доброй
памяти посадили тополя
сестра Мария с мужем Кронидом
из г. Тольятти 24° XI 79 г.

*Дот за вёскай Мінчэва ля Буга ў гміне Драгічын з памятным надпісам у гонар Якуба Іванавіча Макарава.*

## Куток практычных ведаў




### ЯК ЖЫЦЬ ДАЎЖЭЙ?

Калісь на вёсцы людзі былі шчуплейшыя. Зрэшты, не было на чым асабліва папраўляцца. Часта перад дзецьмі хавалі хлеб, каб не з'елі без рацыі, а мяса паяўлялася толькі на святочным стале.

Сёння наогул людзі сабе не любяць адмаўляць у чымсьці. Занікае традыцыйнае харчаванне. Калісь на снеданне абавязкова быў боршч з бульбай. Сёння ёсць больш малака, хлеб з маслам, а нават каўбасой, салодкая кава з малаком.

Так што поўныя людзі пачынаюць сустракацца і на вёсцы, хаця рух і фізічная праца з'яўляюцца смяртэльным ворагам тлушчу.

А найгорш з гэтым — гаспадыням. Кожная гаспадыня, якая стаіць каля пліты, ведае аб гэтым. А ўсё з-за прабавання. Там скубне, тут абліжа ці ўкусіць, а ўсё ж гэта калорыі. Робіць піражкі з вараным мясам. Абгрызае косці (яшчэ перад змяленнем мяса). Пасля каштуе, ці ў змеленым фаршы дастаткова прыпраў. Варыць піражкі. Тры з іх у вадзе разваліліся — з'ядае іх, бо не падасі ж мужу і дзецям абы-якія. Разам з сям'ёй есць звычайны абед. Пасля даядае ўсё тое, што пакінулі дзеці на талерках, не выкідаць жа! А пасля па лесвіцы ўверх не ўвойдзе, цяжка дыхаць.

Гарадскія жанчыны больш дбаюць пра талію. Малако і тварог — нятлустыя, мяса — таксама, мала хлеба і бульбы, затое зеляніны шмат. Зразумела, жанчына не павінна быць худая, як дошка, але норму трымаць варта. Лекары кажуць, што поўныя людзі жывуць менш. А кожны ж з нас хацеў бы пажыць даўжэй.

**Эскулап**




Дарагі Астроне, прысніўся мне такі сон. Каму не скажу, дык усе гавораць, што гэта нядобрае штосьць. Сніцца мне так. Быццам я прыехала з Расіі (часта езджу), уваходжу ў пакой з чамаданамі і бачу, што ў кутку стаяць дзве ёлкі так прыбраныя, як на раждждаство: рознымі цацкамі, лямпкамі. Адна ёлка стаіць так, як мы ўсё стаўляем, а другая каля яе — толькі стаіць у вялікім кафлёне. Я здзіўляюся, а тая, што ў кафлёне, ломіцца, валіцца, а я крычу мужу: „Ідзі хутчэй, глянь, што робіцца!" А муж мой прыйшоў і разабраў, і вынес адну і другую. Што абазначае гэты сон?

Марыся з Бельшчыны

**Марыся з Б.!** Людзі, на жаль, маюць рацыю. Сон добрага не прадвяшчае. Ёлка магла б абазначаць для цябе нейкі прыбытак у гаспадарцы, калі б была свежая і зялёная. Непакоіць, аднак, факт, што другая ёлка развалілася і зламалася, ды і тое, што муж пасля разабраў адну і другую. У вашай гаспадарцы, здаецца, будуць нейкія страты.

**Астрон**

